№15 (178)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Кастрычнік 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**У 40% работнікаў у Беларусі заробак менш чым $500.**

Сярэдняя зарплата ў 12 087 арганізацыях складае менш чым 5 млн. беларускіх рублёў, сведчаць даныя афіцыйнай статыстыкі.

У гэтых арганізацыях працуе прыкладна 1,27 млн. чалавек. Спісачная колькасць работнікаў усіх юрыдычных асоб, улічаных афіцыйнай статыстыкай, складала ў жніўні 3,21 млн. чалавек.

Такім чынам, зарплату менш чым 5 млн. беларускіх рублёў у жніўні атрымлівалі амаль 40% работнікаў.

У жніўні, паводле афіцыйнай статыстыкі, сярэдняя зарплата ў Беларусі склала 6,36 млн. рублёў і ўпершыню знізілася ў 2014 годзе ў параўнанні з папярэднім месяцам.

### У Прыдняпроўі

**Один из председателей сельских советов депутатов Могилевской области уличен в коррупции.** Прокуратура области возбудила уголовное дело в отношении народного избранника, который превышал служебные полномочия.

Как выяснилось, подозреваемый выделял земельные участки под строительство гражданам, которые вовсе не нуждались в улучшении жилищных условий.

Речь идет о причинении вреда государству в сфере земельных правоотношений, рассказал начальник отдела прокуратуры Могилевской области Андрей Волков. Он также отметил, что санкция инкриминируемой подозреваемому статьи предусматривает наказание в виде лишения свободы до 10 лет лишения свободы.

### У раёне

**Намінальная налічаная сярэдняя заработная плата** працаўнікоў Бялыніцкага раёна ў жніўні 2014 года склала 5 700 944 рублёў, паведамляюць магілёўскія статыстыкі. Сярэднемесячная налічаная зарабатная плата за студзень-жнівень 2014 года ў працаўнікоў Бялыніччыны складае 5 030 356 рублёў.

# ВОЛЬНАЕ МЯСТЭЧКА БЯЛЫНІЧЫ

### 380 год таму 4 кастрычніка 1634 года Бялынічы атрымалі Магдэбурскае права

***Доля старажытных Бялынічаў выклікае шчырае спачуванне і шкадаванне: мястэчка цягам доўгіх стагоддзяў, не здолеўшы захаваць сведчанняў уласнай былой велічы і славы, згубіла сваю адметнасць.***

**«Так уставуем: естли кому з мещан нашых права майдебурского которая крывда деяла от князей, панов и земян и подданых их, а они бы се сами доброволне успраедливити не хотели або справедливости с подданных своих не вчинили, тогды таковго каждого мещанин маеть до суду земского паветового позвати и далей поступовати против ему подлуг поступку права и статуту земского».**

***Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г., р.4, арт.69.***

Магдэбурскае права – гэта сукупнасць юрыдычных нормаў, якія вызначалі становішча гараджан ва ўмовах феадальнага грамадства. Узнікла яно напрыканцы 12 стагоддзя ў горадзе Магдэбургу, што ва Усходняй Германіі. Цягам наступных стагоддзяў (13-18) пашырана на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай. Гараджане вольных (магдэбурскіх, майдэборскіх) мястэчак вызваляліся ад феадальных павіннасцяў, ім гарантаваліся свабодныя заняткі рамяством, гандлем, дазвалялася выбіраць свой орган улады (магістрат, ратушу, майдэборыю), суд, ствараць аб'яднанні рамеснікаў – цэхі.



Прывілеі на магдэбурскае права давалі вялікія князі Вялікага княства Літоўскага і каралі Рэчы Паспалітай.

Першым беларускім горадам, які атрымаў магдэбурскае права, была Вільня. Затым яно было даравана жыхарам Брэста, слуцка, Гародні, Полацка, Мінска…

Бялынічам магдэбурскае права (фундацыйны прывілей) было нададзена каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем ВКЛ Уладзіславам IV Вазай 4 кастрычніка 1634 года, калі мястэчкам валодаў Казімір Сапега, сын знакамітага Льва Іванавіча Сапегі. Пацвярджальны прывілей быў атрыманы ў 1703 годзе.

Паводле падлікаў Анатоля Цітова, на этнічных землях Беларусі налічвалася больш 120 вольных магдэбурскіх местаў.

Атрыманне мястэчкам права на самакіраванне давала яго жыхарам шмат новых магчымасцяў у іх сацыяльным, эканамічным, юрыдычным і палітычным жыцці. Яно, для прыкладу. Надзейна забяспечвала ахову правоў мяшчан (ніжэйшага і шматлткага саслоўя жыхароў мястэчка) і ў пэўнай ступені зроўнівала іх з прывіляванай катэгорыяй – шляхтай.

*(Заканчэнне на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# З ГІСТОРЫІ ВОЛЬНЫХ БЯЛЫНІЧ

**"...Возмечтавших о мнимой вольности записать в крепостные, а двоих сечь кнутом и в Сибирь".**

***З пастановы Сената, 1832 год.***

Адна з цікавых і маладаследаваных старонак гісторыі Бялынічаў звязана з наданнем мястэчку магдэбурскага права і адстойванне месцічамі сваёй вольнасці пасля гвалтоўнага далучэння Беларусі ў склад Расейскай імперыі.

Фундацыйны прывілей Бялынічам на самакіраванне па ўзору магдэбурскага права кароль польскі і Вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Уладзіслаў Ваза падпісаў 4 кастрычніка 1634 года. Вядома таксама, што ў 1703 годзе мястэчка атрымала іканфірмацыйны прывілей.




З атрыманнем прывілею прывілею мястэчка станавілася аўтаномнай юрыдычнай адзінкай, а насельнікі яго кіраваліся асобнымі законамі. Гараджане вольных (магдэбурскіх) гарадоў і мястэчак вызваляліся ад феадальных павіннасцяў, ім гарантаваліся свабодныя заняткі рамяством, гандлем, дазвалялася выбіраць свой орган улады (магістрат, ратушу), суд, ствараць аб'яднанні рамеснікаў – цэхі. Кожнае магдэбурскае месца атрымлівала ўласныя герб і пячатку, прывілей. Апошні фіксаваўся на аркушы, выдаваўся ўладзе мястэчка і захоўваўся ў дзеля гэтага службовых асобаў.

На вялікі жаль, бялынічане не ведаюць, як выглядаў герб іхняга мястэчка, якой была меская пячатка і ці была пабудавана на цэнтральнай, рынкавай, плошчы мястэчка ратуша. Нагадаю, што зараз гярбом Бялынічаў з'яўляецца шчыт з выявай Маці Божай Бялыніцкай (зацверджаны 12 ліпеня 2002 года).

Зрэшты, малаверагодным падаецца і тое, што за ўвесь час валодання магдэбургскім правам, што складае па самых мінімальных падліках 138 гадоў, бялынічане так і не парупіліся наконт таго, каб займець атрыбут сіайго асаблівага гонару – ратушу.

Нельга абыйсці ўвагай і тое, што менавіта з 1634 года для Бялынічаў пачынаецца сапраўдны росквіт.Пры кляштары кармелітаў пачынае дзейнічаць друкарня, у якой крыху пазней абсталёўваецца і гравёрны цэх, само мястэчка ператвараецца ў значны гандлёвы (праводзілася 4 кірмашы) і рамесніцкі цэнтр.

Вырастае і колькасць яго жыхароў.

Наяўнасць у касцёле цудадзейнага абраза Бялыніцкай Боскай Маці абумоўлівала і значны прыток паломнікаў, - людзей, якім патрабавалася заступніцтва і абарона святога абраза.

Усё гэта разам узятае садзейнічала набыццю Бялынічамі вядомасці і славы ня толькі на прасторах магілёўшчыны, але і ўсяе Рэчы Паспалітай. Прывілеем на самакіраванне бялынічане карысталіся, мажліва, да 1803 года.

У 1772 годзе Бялынічы былі далучаны да Расейскай імперыі. Напачатку Кацярына II даволі лаяльна паставілася да жыхароў беларускіх гарадоў і мястэчак, якія валодалі магдэбурскім правам і не пасягала на іхнія вольнасці ды прывілеі. Але нехарактэрны для расейскага трону лібералізм мусіў патрываць нядоўга. Неўзабаве на інкарпараваных землях пачалася рэформа сістэмы органаў дзяржаўнага кіравання, падчас правядзення якой усе беларускія магдэбурскія гарады і былі пазбаўлены ранейшых вольнасцяў, ільгот, прывілей ды манаполій. Зразумела, месцічы паспрабавалі бараніць свае інтарэсы і правы.

*(Заканчэнне на стар. 7)*

## ВОЛЬНАЕ МЯСТЭЧКА БЯЛЫНІЧЫ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

Мешчанін мог прыцягнуць да судовай адказнасці любога шляхціча, калі той ушчамляў яго правы.

З атрыманнем прывілею мястэчка станавілася аўтаномнай юрыдычнай адзінкай, а насельнікі яго кіраваліся асобнымі законамі.

Кожнае магдэбурскае места атрымлівала ўласныя герб і пячатку, прывілей. Апошні фіксаваўся на аркушы, выдаваўся ўладзе мястэчка і захоўваўся ў вызначаных дзеля гэтага службовых асобаў.

Падчас інкарпарацыі беларускіх земляў царскі ўрад у сваіх маніфестах абяцаў жыхарам магдэбурскіх гарадоў і мястэчак захаваць іх вольнасці і прывілеі. Але гэта былі проста дэмагагічныя абяцанні. Вольнасць магдэбурскіх мястэчкаў і гарадоў была гвалтам адабрана.

На Магілёўшчыне магдэбурскае права было адменена па ўказу Кацярыны II у лістападзе 1775 года, у цэлым па Беларусі – да канца 1795 года.

З 1803 года да 1832 праз судовыя інстанцыі бялынічане змагаліся за аднаўленне свайго права на самакіраванне, аднак плёну гэтае змаганне ў Расійскаі імперыі не прынесла…

# ОЧЕРЕДНАЯ СМЕНА ВЫВЕСКИ

***Как уже знают наши читатели, 17 июля этого года Александр Лукашенко подписал четыре указа касающихся предстоящей реформы в агропромышленном комплексе Беларуси.***




За время нахождения у власти Александра Григорьевича было предпринято несколько попыток реформировать сельское хозяйство страны, сделать его работу эффективной, а условия жизни населения максимально приблизить к городским. Но по большому счёту, все они в основном касались изменения структуры управления, замены одних вывесок на другие и пересадки чиновников из одного управленческого кресла в другое. Вначале были Министерство сельского хозяйства, Министерство мелиорации и водного хозяйства, Министерство мясной и молочной промышленности, Белмежколхозстрой. Потом появился Государственный агропромышленный комитет, в настоящее время функцию управления осуществляет Министерство сельского хозяйства и продовольствия. Были колхозы, затем появились СПК, но суть их организации и функционирования не поменялась. Государство, в лице местных чиновников, «управляло» сельскохозяйственными кооперативами (коллективная собственность) не менее жёстко, чем государственными(государственная собственность) совхозами. На практике, между ними нет ни какой разницы, за исключением того, что председатель СПК «избирается» членами кооператива, но контракт с ним заключает местная вертикаль.

## Некоторые нюансы

Согласно указа №349 «О реорганизации колхозов (сельскохозяйственных кооперативов» колхозы (СПК) в срок до 31 декабря 2016 года подлежат преобразованию в хозяйственные общества или коммунальные унитарные предприятия. Сразу же надо сказать, что колхозы, которые изначально создавались как производственные кооперативы, таковыми реально не являются. Основная причина такого положения,— безграмотное решение вопроса о паевых взносах членов кооператива и их учёте, хотя их имущество являлось основой имущества колхоза. Учёт имущества не налажен, так же не были определены доли (паи) членов колхоза. Сегодня нельзя назвать хотя бы одного примера, когда на практике, при выходе из колхоза его член получал бы свою долю в натуральном или денежном выражении. И это при всём том, что, согласно Указа №49 от 2.03. 2001 года, был утверждён Примерный устав колхоза (СПК), в котором подробно был прописан вопрос создания, реорганизации, деятельности колхозов, членства и выхода из них, получения права на «долю дохода (прибыли) или продукции, подлежащих распределению на его денежные и имущественные взносы, а также средства долевого фонда, если это предусмотрено уставом колхоза». В практике колхозной жизни ничего подобного нет. Основной причиной такого положения является практически поголовная юридическая и экономическая безграмотность не только простых колхозников, но и подавляющего числа руководителей и специалистов хозяйств, специалистов управлений сельского хозяйства и продовольствия райисполкомов, председателей райисполкомов. К примеру, журналисты кричевской независимой газеты «Вольны горад» неоднократно рассказывали, как бывший председатель Чериковского райисполкома Николай Кодатенко не скрывая похвалялся, что «бумаг» не читает. Доля таких кодатенок среди нынешних председателей райисполкомов Могилёвской области не как не менее 90%. Практически во всех хозяйствах АПК области и Чериковского района отсутствуют грамотные юристы. Не вдаваясь в другие многочисленные нюансы поднятой темы, можно однозначно говорить, что качественного выполнения Указа №349 «О реорганизации колхозов (СПК)» не будет, а значит говорить о какой-то реформе АПК просто смешно.

***Вадим ЗАБРОДОВ***

## ПЬЮТ И БЬЮТ

29 сентября Белыничским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по статье 147 ч. 1 Уголовного кодекса Республики Беларусь (Умышленное причинение тяжких телесных повреждений) в отношении жителя д. Гута Белыничского района, 1990 г.р., который 26 сентября на территории молочно-товарной фермы СПК в д. Борок указанного района, после совместного распития спиртных напитков, в ссоре, избил местного жителя, 1960 г.р., причинив ему тяжкие телесные повреждения. Задержан в административном порядке по статье 17.3 ч. 3 КоАП. Раскрыто следственно-оперативной группой, сообщает uvd.mogilev.by.

# РАЗМЫШЛЕНИЕ У ПАРАДНОГО ПОДЪЕЗДА

***Я хочу гордиться своей страной. Я хочу гордиться своим языком, своей культурой, своей историей. И думаю, что в этом мне должны помогать люди, которые стоят у власти на уровне района, области, республики. Но почему-то не вижу с их стороны никакого желания вызывать у меня патриотическое чувство гордости за то, что я – белоруска.***



*Зинаида Милещенко*

Я помню те бурно-эмоциональные годы после перестройки, когда было уважение к тому, кто говорил по-белорусски, в районе открыто действовало общество белорусского языка имени Скарыны. И мы были смелые, открытые и не боялись выражать свои чувства. Даже я, закончившая школу и техникум в России, с одушевлением взялась за изучение белорусского языка и написала несколько стихотворений и рассказов на белорусском языке. И никому не приходило в голову, что пройдёт время, и родной язык исчезнет не только с общения, но и с официальных досок государственных учреждений. И горько сказать, даже с парадного подъезда, так называемого Дома Советов в Круглом.

Что же случилось?! Кому помешал белорусский язык в районе, который считался первым государственным языком, а русский – вторым? Кто посчитал, что вот именно в это время, когда между Украиной и Россией возникли недоразумения именно из-за, стыдно сказать, статуса русского языка на востоке Украины, необходимо дать понять нашим людям или высшему чиновнику соседней страны, что у нас всё «о-кей». Мы так ценим вашу дружбу, что готовы отказаться не только от своего языка, но и дать понять, что мы уже чуть ли не часть России. А чёрт с ней, с независимостью! Лишь бы не было войны!

Я не удивлюсь, если расторопные круглянские районные чиновники вывесят рядом с белорусским и российский флаг, чтобы только угодить кому-то там, наверху. Хотя меня ещё мучает сомнение, а ему это надо? Вряд ли, бывши полноправным хозяином пусть и небольшого надела, кто-то мечтает стать вассалом!

Почему у нас в районе «правят бал!» те недалёкие чиновники, которые историю знают из советских книг? Почему среди названий улиц можно встретить улицы имени российских полководцев, таких, как Кутузов и Суворов. И если первая ещё мало-мальски не вызывает отторжения, то вторая, после ознакомления с истинным героизмом этого российского полководца в ходе подавления восстания белорусского народа против империалистической России, вызывает горечь и недоумение. Ну, когда же мы станем народом государства, которое ценит своих великих людей, таких, как Костюшко, Калиновский, Скарина, Ефросинья Полоцкая, наконец. Согласна даже на Машерова, хотя и с некоторым сомнением. У нас много писателей, композиторов, что внесли вклад не только в историю страны, но и мировую историю. У нас много земляков, которые положили свои жизни за свободу и независимость нашей Родины во время Великой Отечественной войны.

С недоумением стою у парадного подъезда «Дома Советов» и с горечью думаю, кто мы – «Иваны, не помнящие родства» или предатели, которые без войны сдали свою страну и Родину в плен более наглому и состоятельному соседу. И вспоминается старый анекдот: «Если у тебя не хватает сил сопротивляться насильнику - расслабься и постарайся получить наслаждение». Вот и мы пытаемся получить, но ведь и от насилия бывают дети. Кого породит наша подлая «памяркоўнасць» и холуйская угодливость? Во что нам выльется наша недалёкость – трудно сказать, но знаю точно, наши дети и внуки вряд ли скажут нам за это спасибо.

***Зинаида Милещенко***

# ЛУКАШЭНКА: ТРЭБА ВУЧЫЦЬ МОВУ

Кіраўнік краіны прапануе пераглядзіць школьную праграму, пасля аналізу якой Аляксандр Лукашэнка заўважыў, што ў нашых школах, на вывучэнне расейскай і англійскай моваў адводзіцца больш гадзін, чым на беларускую.

«Добра, на рускай мове мы практычна ўсе размаўляем. Але на беларускай мове, скажам шчыра, у побыце, ў хаце мы размаўляем менш. Так, можа быць, трэба ў школе на карысць беларускай мовы даць адну гадзіну, а не на карысць англійскай?», – цытуе словы Лукашэнкі 29 верасня belta.by.

Кіраўнік дзяржавы мае прэтэнзіі і да школьнай праграмы па літаратуры, у якую «з незразумелых прычын» уключаюцца тыя ці іншыя творы.

Што ж, нават кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка нарэшце зразумеў, што патрэбна шанаваць родную мову. Аднак круглянскія чыноўнікі (дарэчы, як і бялыніцкія), верагодна, прытрымліваюцца іншага пункту гледжання…

# ВОРУЮТ…

20 сентября следственным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 1 Уголовного кодекса (Кража) в отношении жительницы д.Отверница, 1982 г.р., которая 6 сентября около 16-00 в лесном массиве г.п. Белыничи вблизи «Белыничский дом-интернат для престарелых и инвалидов», после совместного распития спиртных напитков, похитила 1 миллион рублей у пенсионера, местного жителя, 1957 г.р. Раскрыто отделением уголовного розыска, сообщает uvd.mogilev.by.

# БАРЫС ЖАЛІБА: НЕРЭАЛЬНА ВЫСОКІЯ ЗАРОБКІ ЗАГАНЯЮЦЬ ЭКАНОМІКУ Ў ТРУНУ

***На будучы год беларускія эканамічныя ўлады прапануюць зацвердзіць даволі сціплы (на ўзроўні 4 працэнтаў) тэмп росту рэальнага (з улікам інфляцыі) заробку. Між тым, эканаміст Барыс Жаліба мяркуе, што "ў год прэзідэнцкіх выбараў падымаць заробкі ўсё роўна будуць істотна".***

Па інфармацыі БелаПАН, прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця, якія падрыхтавалі профільныя ведамствы, мяркуе рост УВП у 2015 годзе на ўзроўні 2.6 %.

Барыс Жаліба: Такія прагнозы кажуць толькі аб адным: у эканоміцы настолькі дрэнная сітуацыя, што падняць заробкі, як у мінулым годзе (больш чым на 15 працэнтаў), ужо няма магчымасці. Але, улічваючы, што 2015 год – час прэзідэнцкіх выбараў, то запланаваны рост рэальнага заробку на 4 працэнты (прыкладна на 35 долараў) чыноўнікі выканаюць і істотна перавыканаюць. Але ж рост заробкаў ізноў у разы перавысіць рост вытворчасці працы. Гэты дысбаланс у Беларусі хранічны, ён заганяе ў труну эканоміку. Праўда, лічыцца з гэтым ніхто не будзе.




РР: Сярод людзей сёння пануюць такія настроі: маўляў, да выбараў на валютным рынку ўсё будзе адносна спакойна, хоць плаўная дэвальвацыя працягнецца.

Барыс Жаліба: У нас такая непрадказальная эканоміка, што цяжка нешта загадваць наперад нават на паўгода. Мы ўвесь час падтрымліваем плаўную дэвальвацыю за кошт знешніх пазыкаў (у асноўных – расейскіх), даводзіцца разлічвацца за папярэднія. Нават тыя 2 мільярды даляраў пазыкі, якія Расея ўжо пачала даваць Беларусі, пойдуць на пагашэнне старых пазыкаў. І мы ізноў застаемся з нулём. Таму, як будзеісці плаўная дэвальвацыя, шмат у чым будзе залежыць ад таго, колькі грошай дасць Расея. Калі атрымаюцца нейкія збоі, то беларускі рубель можа абваліцца ў любы момант. Праўда, Расея ў гэтым не зацікаўлена – іх задавальняе кандыдатура Лукашэнкі. Таму, як мне падаецца, Крэмль працягне аказваць беларускай уладзе фінансавую дапамогу.

РР: А ці можна разлічваць на крэдыт Міжнароднага валютнага фонду?

Барыс Жаліба: Не думаю, таму што беларускі бок не выканаў усе тыя патрабаванні МВФ, пра якія заяўлялася пры атрыманні папярэдняй пазыкі. Ды і палітычная сітуацыя ў нас у лепшы бок не змянілася.

***Кастусь Забоцкі, Беларускае Радыё Рацыя***

# МАГІЛЁЎ: НА НЕЗАЛЕЖНАГА ЖУРНАЛІСТА СКЛАЛІ ПРАТАКОЛ АБ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫМ ПРАВАПАРУШЭННІ

***30 верасня незалежны журналіст з Магілёва Аляксандр Буракоў у чарговы раз згодна позвы наведаў Ленінскі РАУС горада Магілёва.***

Намеснік начальніка ААПП (аддзел аховы правапарадку і прафілактыкі) Ленінскага РАУС маёр Уладзімір Пугачоў азнаёміў журналіста з падрыхтаваным загадзя пратаколам аб адміністрацыйным правапарушэнні. Паводле датаванага 30 верасня дакумента, журналісту інкрымінуецца парушэнне часткі 2 арт. 22.9 КаАП – незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ. У пратаколе названы канкрэтны прыклад такой "незаконнай прадукцыі" – размешчаны на сайце DW.de («Нямецкая хваля») 25 жніўня 2014 года артыкул "Тропой контрабандиста: работают ли российские санкции в приграничье?" за подпісам Аляксандра Буракова.

У якасці сведкаў у пратаколе ўказаныя прозвішчы супрацоўнікаў з таго ж Ленінскага РАУС горада Магілёва.

Па словах Аляксандра Буракова, ён пазначыў у пратаколе, што не згодны з яго зместам, а таксама што змешчаны на інтэрнэт-сайце "DW" матэрыял ніяк не можа быць прадукцыяй СМІ, тым больш, што сам інтэрнэт-сайт не з'яўляецца сродкам масавай інфармацыі паводле беларускага

(Заканчэнне на стар. 8)

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЧАМУ ТАК НЕ ШЧАСЦІЦЬ КРАСНАПОЛЬШЧЫНЕ ?

***У сярэдзіне верасня 2014 года мне ў чарговы раз прыйшлося пабываць у Краснапольскім раёне. Кожны раз, наведваючы Краснапольшчыну, я зноўку і зноўку пераконваюся, што тут жывуць вельмі ветлівыя і добразычлівыя людзі. Вось і на гэты раз, ці калі я заходзіў на тэрыторыю машыннага двара, фермы ААТ “Краснапольскі” у гарадскім пасёлку або ў вёсках, ці ў будынкі Краснапольскага райвыканкама і раённага Упраўлення па сельскай гаспадарцы, амаль усюды я чуў ад людзей пытанні, накшталт : “Што вам падказаць?”, “Чым вам дапамагчы?”.***

…Нягледзячы на Чарнобыльскую трагедыю 1986 года, калі з Краснапольшчыны ў розныя рэгіёны былога Савецкага Саюза з’ехалі тысячы людзей, калі ў раёне былі зачынены дзесяткі прадпрыемстваў, тыя, хто застаўся, змаглі наладзіць жыццё ў сваім родным краі.

І ў дадзеным выпадку рэспубліканскім, абласным, раённым уладам для стварэння прыстойнага ўзроўню жыцця ў дадзеным рэгіёне толькі і заставалася крыху падтрымаць людзей, дапамагчы ім у наладжванні вытворчасці і не перашкаджаць там, дзе вытворчыя працэсы былі адладжаны на належным узроўні.




Але ж, як гэта часта бывае, у беларукіх чыноўнікаў проста рукі чэшуцца,каб “паэксперыментаваць” і такім чынам паказаць свае “здольнасці” да рэфармавання розных галін эканомікі краіны. На тэмах рэфармавання некаторыя прадстаўнікі чынавенства з вышэйшых эшалонаў улады нават абаранілі кандыдацкія і доктарскія дысертацыі.

Так было і ў сельскай гаспадарцы краіны, калі пад выглядам рэформаў усярэдзіне 2000-х гадоў былі распачаты працэсы зліцця ў адну па некалькі гаспадарак розных форм уласнасці. Сярод рэгіёнаў нават было распачата негалоснае спаборніцтва - хто ў дадзенай “рэформе” атрымае найбольшыя дасягненні.

Наперадзе ўсіх апынулася Магілёўшчына. Тут пайшлі па прынцыпу: “Аб’ядноўваць, дык аб’ядноўваць”. І, напрыклад, у Краснапольскім раёне пад выглядам рэформаў у 2008 годзе злілі ў адну кучу ўсе існуючыя на той момант сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, аб’яднаўшы іх у адну гаспадарку – Унітарнае Камунальнае Сельскагаспадарчае Прадпрыемства “Краснапольскі”.

Як праходзілі працэсы аб’яднання, як ламаліся межы гаспадарак і лёсы людзей - гэта асобная гісторыя.

Але ўжо ў першы год існавання УКСП “Краснапольскі” было бачна, што эксперымент правальваецца. Што абяцанні тагачаснага старшыні райвыканкама Аляксандра Ветошкіна аб павелічэнні заробкаў сялян, аб росце ўраджаю,прывесаў і надояў малака, аб рэфармаванні сістэмы мясцовай улады (скарачэнне апарату Упраўлення сельскай гаспадаркай раёна) не спраўджваюцца.

У першы год эксперыменту толькі з-за пагаршэння якасці здадзенага на малаказавод малака гаспадарка згубіла фінансавыя сродкі, перавысіўшыя гадавы фонд заработнай платы.

У аб’яднанай гаспадарцы пачалі зніжацца паказчыкі вытворчасці. Напрыклад, надоі малака на адну карову ў раёне знізіліся да 2,3 тыс. літраў (і тое з прыпіскамі).

І, як след, сяло пачалі масава пакідаць людзі. Падобнага эксперымента над сабой не вытрымалі нават тыя, хто застаўся пасля Чарнобыльскай трагедыі. У сярэднім, з аб’яднанай гаспадаркі звальняюцца каля 100 чалавек у год. Да аб’яднання, толькі ў адным сельскагаспадарчым вытворчым кааперытыве “Краснапольскі” налічвалася каля 800 працаўнікоў. Зараз жа ў аб’яднанай гаспадарцы ААТ “Краснапольскі” (гаспадарка пераіменавана ў адкрытае акцыянернае таварыства) працуе ўсяго толькі 450 чалавек.

Не далі належнага эфекту і мільярдныя фінансавыя ўліванні ў сельскую гаспадарку раёна з бюджэту.

Краснапольскі эксперымент цягнецца ўжо шэсць год. Мінскія, магілёўскія, краснапольскія чыноўнікі разумеючы, што з аб’яднаннем сельгаспрадпрыемстваў раёна ў адно сатварылі, мякка кажучы, дурасць, не прымаюць ніякіх мераў па ліквідацыі няўдалага эксперыменту.

Як мне распавялі некаторыя працаўнікі “Краснапольскага”, у іх былі вялікія спадзяванні, што ў сітуацыю ўмяшаецца вышэйшае кіраўніцтва краіны пасля публікацый аб іх гаротным стане ў газеце “Советская Белоруссия” у 2012 і 2013 годзе. Але і тут справа з мёртвай кропкі не зрушылася.

Каб зразумець, у якім стане знаходзіцца ААТ “Краснапольскі”, дастаткова зайсці ў цэнтральны офіс гаспадаркі, што знаходзіцца на вул.-Антонава,16. Прама на ўваходзе для любога наведвальніка існуе пагроза

(Заканчэнне на стар. 7)

# ЧАМУ ТАК НЕ ШЧАСЦІЦЬ КРАСНАПОЛЬШЧЫНЕ ?

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

правaліцца ў дзірку ў падлозе калідора.

А што сабой уяўляюць вытворчыя аб'екты, можна пабачыць тут жа недалёка ад офіса, у тым месцы, дзе размешчаны машынны двор і жывёлагадоўчая ферма, на якой гной ад буйной рагатай жывёлы выдаляўся ўручную праз ваконныя праёмы прама на зямлю пад сцены будынка. А сам будынак выглядае проста жахліва.

Не лепшым чынам выглядаюць вытворчыя аб'екты былых самастойных гаспадарак. Нажаль, шматлікія машынныя двары, зернесушыльныя комплексы, фермы, іншыя аб'екты з-за "непатрэбнасці" даўно не эксплуатуюцца і практычна разрабаваны. А тое, што яшчэ "патрэбна" кіраўніцтву раёна і гаспадаркі, эксплуатуецца абыякава. Як, напрыклад, комплекс у вёсцы Леніна, дзе даўно адсутнічаў бульдозер для выдалення гною, і буйная рагатая жывела, як выказаўся адзін з жывёлаводаў, "па калена ў гаўне".

Як адбілася недарэчнасць краснапольскага эксперыменту на стане вёскі можна яскрава назіраць на прыкладзе вёскі Горы, калісьці цэнтральнай сядзібы пасняховай гаспадаркі, адкуль зараз імкліва збягаюць людзі. Праехаўшы па цэнтральнай вуліцы вёскі можна заўважыць цэлы шэраг пустуючых,калісьці дабротных, дамоў, дзе раней жылі калгаснікі. Да праводзімых сёлета ў гэтай вёсцы раённых "Дажынак" ваконныя праёмы пустуючых дамоў зашылі шчытамі, падфарбавалі, чым надалі выгляд сапраўднай "пацёмкінскай вёскі". Як выказаўся адзін з былых галоўных спецыялістаў гаспадаркі, зараз тут застаюцца жыць і працаваць толькі тыя, каму дзявацца няма куды, або трэба дапрацаваць год-два да пенсіі. Бо пенсія ў перспектыве чакаецца большая, чым аклад спецыяліста з вышэйшай адукацыяй у памеры 1,6 мільёна рублёў...

За гады эксперымента паказчыкі Краснапольскага раёну па вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі знізіліся ў 1,3-1,5 разы. І гэта пры тым, што ў пагоні за паказчыкамі кіраўніцтва раёна і прадпрыемства нярэдка прыбягаюць да распрацоўкі і засявання збожжавымі культурамі земляў, выведзеных з севазварота з-за забруджвання радыёнуклідамі. Чыноўнікі не звяртаюць увагу на тое, што атрыманая на забруджаных землях прадукцыя нясе небяспеку ўсім грамадзянам нашай краіны.




Пры сустрэчах з вуснаў краснапольцаў гучалі адны і тыя ж рытарычныя пытанні: "Што надалей будзе з Краснапольскім раёнам, што надалей будзе з намі? Колькі яшчэ будзе працягвацца гэты эксперымент над людзьмі?"

Аб'яднaлі прадпрыемствы ў адзін вялікі "калгас", зараз думаюць аб'яднаць раёны Магілёўскай вобласці…

Пакуль што людзі на працягу шасці год не змаглі атрымаць адказу на гэтыя свае пытанні ні ад чыноўнікаў рознага рангу, ні ад праўладных сродкаў масавай інфармацыі .

Ім толькі і застаецца – шукаць "шчасця" ў іншым месцы.

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

# З ГІСТОРЫІ ВОЛЬНЫХ БЯЛЫНІЧ

*(Заканч. Пачатак на стар. 2)*

Пазбавіўшыся статуса жыхароў вольнага мястэчка, пачалі хадайнічаць перад новымі ўладамі і бялынічане. Яны нават распачалі судовы працэс. Спарва гэта аказалася надзвычай няпростай – высвятленне ўсіх акалічнасцяў доўжылася напрацягу 29 гадоў: з 1803 да 1832. Для пацвярджэння сваіх правоў бялынічане прадставілі ў Магілёўскі павятовы суд, а затым і ў Сенат арыгіналы двух прывілеяў гарадоў на магдэбурскае права – фундацыйны 1634 года і канфірмацыйны 1703. Але Сенат гэтыя дакументы назваў "несапраўднымі", што надзвычай абурыла хадайнікаў. Каб адбіць ахвоту і надалей дамагацца сваіх законных правоў у адносінах да найбольш актыўных бялынічан былі прыняты рашучыя меры: яны абвінавачаны, як "возмечтавшие о мнимой вольности», былі залічаныт ў прыгонныя, а двух найбольш актыўных змагароў прылюдна высеклі бізунамі і выслалі на катаргу ў Сібір.

Што ж да саміх прывілеяў, то яны ці то былі знішчаны, ці то схаваны ў нейкім расейскім архіве.

Схаваны надзейна, надоўга. Але, думаецца, - не назаўсёды.

***Паводле Міхася Карпечанкі і газеты "Бялыніцкая даўніна"***

## МАГІЛЁЎ: НА НЕЗАЛЕЖНАГА ЖУРНАЛІСТА СКЛАЛІ ПРАТАКОЛ АБ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫМ ПРАВАПАРУШЭННІ

*(Заканч. Пачатак на стар. 5)*

заканадаўства, і ён сам не з’яўляецца штатным супрацоўнікам згаданага рэсурса.

Маёр Пугачоў паведаміў журналісту, што пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні будзе перададзены ў суд, куды Аляксандра Буракова павінны выклікаць на судовае разбіральніцтва да 10 кастрычніка.

Таксама супрацоўнікі міліцыі вярнулі Аляксандру Буракову два ноўтбукі, якія належаць яго жонцы і былі забраныя падчас “агляду” кватэры журналіста, а таксама адзін з сістэмных блокаў з кватэры яго бацькоў. Другі сістэмны блок з кватэры бацькоў журналіста па-ранейшаму застаецца ў супрацоўнікаў Ленінскага РАУС, як і флэшкі.

Аляксандр Буракоў на простым лісце паперы напісаў маёру Пугачову распіску аб атрыманні тэхнікі. Адметна, што пры вынятку камп’ютараў супрацоўнікі міліцыі ніякага дакумента Аляксандру Буракову і яго бацькам не пакідалі.

Нагадаем, што раніцай 16 верасня ў прыватнай кватэры Аляксандра Буракова з санкцыі пракурора г. Магілёва супрацоўнікі Ленінскага РАУС правялі “агляд месца адміністрацыйнага правапарушэння”. Падставай для яго правядзення стала з’яўленне ў ліпені-жніўні 2014 г. на інтэрнэт-сайце DW.DE (“Нямецкая хваля”) трох матэрыялаў за подпісам Аляксандра Буракова. У вынікуператрусу, які фіксаваўся на відэакамеру, з кватэры забралі два ноўтбукі і дзве флэшкі. Пазней у той жа дзень на той жа падставе правяліператрус у кватэры бацькоў журналіста, у часе якога забралі сістэмныя блокі двух камп’ютараў.




Аляксандр Буракоў 18 верасня накіраваў скаргі на дзеянні супрацоўнікаў Ленінскага РАУС горада Магілёва міністру ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Ігару Шуневічу і начальніку УУС Магілёўскага аблвыканкама Аляксандру Кавальчуку. Таксама ім была накіраваная скарга на дзеянні пасадавых асобаў Ленінскага РАУС горада Магілёва і невядомых намеснікаў пракурора горада Магілёва на імя пракурора Магілёўскай вобласці.

Журналіст лічыць, што праведзеныя 16 верасня агляды і вынятак камп’ютарнай тэхнікі ў кватэрах яго і яго бацькоў былі здзейсненыя незаконна, і ўсе доказы, атрыманыя пры правядзенні гэтых працэсуальных дзеянняў, не маюць юрыдычнай сілы.

***Барыс Вырвіч***

## ЖИТЕЛЯМ БЫХОВСКОГО РАЙОНА ГРОЗИТ ДО 6 ЛЕТ ЛИШЕНИЯ СВОБОДЫ

Двоим жителям д. Обидовичи Быховского района за браконьерскую рыбалку грозит лишение свободы сроком до 6 лет. Ущерб, который предстоит возместить браконьерам, составил почти Br 30 млн., рассказал заместитель начальника Могилевской областной инспекции охраны животного и растительного мира Сергей Радкевич.

Нарушителей природоохранного законодательства задержали в ночь с 21 на 22 сентября 2014 г. на берегу р. Днепр вблизи д. Прибор Быховского района. Они ловили рыбу с помощью запрещенного орудия лова – лесковых сетей. Теперь судьбу браконьеров будет решать суд, сообщает ТРК “Могилёв”.

В целом в уходящем сентябре сотрудники государственной инспекции охраны животного и растительного мира выявили на территории Могилевской области почти 150 нарушений природоохранного законодательства. Половина из этих правонарушений совершена в сфере рыболовства и ведения рыболовного хозяйства.

В отношении могилевских браконьеров за сентябрь 2014 г. возбудили 12 уголовных дел. Еще 5 материалов по фактам нарушения природоохранного законодательства находятся в следственных органах. Все эти дела связаны с незаконным рыболовством, когда природе причинен ущерб в крупном либо особо крупном размере, отметили в Могилевской областной инспекции охраны животного и растительного мира.

## 22-ЛЕТНИЙ ЖИТЕЛЬ ШКЛОВА СТРЕЛЯЛ ПО ОКНАМ ОБЩЕЖИТИЯ

29 сентября Следственный комитет возбудил уголовное дело по статье «Хулиганство» в отношении 22-летнего шкловчанина, сообщает uvd.mogilev.by.

Как выяснилось, 20 сентября 2014 г. молодой человек, находясь в состоянии сильного алкогольного опьянения, произвел 12 выстрелов из пневматического газобаллонного пистолета. В результате разбил оконные стекла в общежитии по улице Колхозной в Шклове.

Неработающему ранее не судимому шкловчанину за хулиганство грозит до 3 лет лишения свободы. В настоящее время проводятся следственные действия, назначен ряд экспертиз.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 01.10. 2014 г. у 17-00.